# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 41 (1691) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК, 9 КАСТРЫЧНІКА 1988 г. ЦАНА 20 зл.



Беласток, вул. Марыі Кюры-Складоўскай. Фота Я. Целушэцкага.

## ВЯРНУЦЦА ДА КАРЭННЯЎ

(Пачатак у папярэднім нумары)

### РАЗМОВА З ПЕРШЫМ САКРАТАРОМ ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР НІЛАМ ГІЛЕВІЧАМ

**Пытанне:** Пачынаючы ад XX з'езда КПСС і канчаючы апошнімі днямі ў СССР праводзяцца рэабілітацыі ахвяр сталінізму. Вяртаюць арміі, партыі, нацыянальнасцям, навукі, літаратуры добрае імя тых людзей, якія трапілі пад сталінскі тапор. Як вядома, пацярпела і беларуская літаратура. У фае Саюза пісьменнікаў БССР ёсць табліца, на якой высечаны залатымі літарамі прозвішчы тых беларускіх пісьменнікаў, якія загінулі ў барацьбе з фашызмам. На жаль, спісак тых беларускіх пісьменнікаў, якія загінулі ад сталінскага тэрору, значна даўжэйшы, чым той, які пералічвае гітлераўскія ахвяры. Ці не думаеце, што кроў бязвінных беларускіх аўтараў павінна быць ушанавана ў форме фігуральнага помніка, табліцы з прозвішчамі, бюстамі загубленых ці нейкім іншым чынам? Гэта першая частка пытання. А цяпер другая. Ці не думаеце, што аб поўнай рэабілітацыі можна будзе гаварыць тады, калі будуць названы не толькі прозвішчы ахвяр, але і прозвішчы сталінскіх даносчыкаў, следчых, пракурораў і ўрэшце — катаў?

**Адказ:** Пачну з другога пытання. Думаю, што трэба назваць імёны нашых злачынцаў. Здаецца мне, што самы надзейны спосаб і сродак, каб не дапусціць да паўтарэння ў будучым таго, што было ў мінулым, гэта менавіта назваць паіменна вінаватых. Гэта не значыць, што над тымі, хто яшчэ жывы, трэба ўчыняць хвалю расправаў, тэрору, помсты. У ніякім разе не ідзе гаворка аб новай крыві. Аднак назваць злачынцаў трэба. Я не бачу, якім іншым спосабам можна дасягнуць стану, у якім нікому ў будучым не схацелася б дзейнічаць так, як дзейнічалі ў мінулым асобіны, якія цяжка назваць людзьмі; амаральныя, злачынныя, жорсткія пачвары. Вядома, што ні Сталін, ні яго прыбліжаныя не змаглі б здзяйсніць тое жахлівае, што адбылося, калі б не тысячы, а можа і дзесяткі тысяч тых, хто на месцах рэалізаваў злачынныя ідэі. Лічу, што трэба гаварыць праўду ў поўным аб'ёме. А якая ж гэта будзе праўда, калі мы назавём толькі Сталіна, Кагановіча, Молатава, Яжова, Берыю, якія ж непасрэдна, скажам, у Беларусі не забілі ніводнага чалавека! Былі тут паслугі канкрэтных нягоднікаў і трэба, каб мы іх ведалі. Мы не будзем у парадку перад памяццю загінуўшых, калі не назавем гэтыя злачынныя імёны. Паслужуся тэатральным прыкладам. Даводзілася мне не раз бачыць у тэатры сярод гледачоў — мацёрых бюракратаў, ворагаў перабудовы. І вось гэтыя людзі вельмі горача апладзіравалі, калі ў п'есе былі паказаны бюракраты і ворагі перастройкі. А чаму? А таму, што ў п'есе паіменна ніхто з іх не быў названы. Установы, у якіх яны працуюць, і пасады ў сцэнічных герояў таксама крыху іншыя, чым у іх. Ну, дык і можна смяяцца і апладзіраваць. Гэта форма самаабароны. Падобная сітуацыя датычыць сталінскіх злачынцаў. Многія з іх уважаюць, што тая вострая крытыка, якая вядзецца ў краіне, датычыць не іх, што яны ў парадку. Трэба назваць іх імёны, каб яны даведаліся, што гаворка ідзе іменна пра іх. Датычыць гэта і тых, якія ўжо памерлі, і тых, якія яшчэ жывуць.

А цяпер адносна першай часткі вашага пытання. Вы напэўна ведаеце, што ў Маскве ўтвораны ўжо фонд пабудовы помніка ахвяр сталінічыны. Што датычыцца нашай справы і нашых ахвяр, дык хачу сказаць, што мы ў Саюзе пісьменнікаў разглядалі гэту справу. Былі розныя прапановы. Адна з іх гэта зрабіць па ўзору той мармуровай

(Працяг на стар. 3)

## ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКІ ПЛЕНУМ ГП

Апошні перадз'ездаўскі пленум Галоўнага праўлення адбыўся 18 верасня. Сакратар ГП Аляксандр Іваноўскі выступіў са справаздачай Прэзідыума за больш як чатырохгадовы перыяд дзейнасці ГП БГКТ.

Хведар Галёнка прадставіў папраўкі да статута БГКТ, падрыхтаваныя статутовай камісіяй, выбранай на папярэднім пленарным пасяджэнні ГП.

Старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ Уладзімір Юзвюк паінфармаваў удзельнікаў пленума аб падрыхтоўцы ацэнкі дзейнасці Галоўнага праўлення і заявіў, што будзе яна крытычная.

Але вернемся да справаздачы Прэзідыума, якая пастаўлена была пад абмяркоўку пленума Галоўнага праўлення і будзе выслана ўсім дэлегатам XI З'езда БГКТ.

У справаздачы былі асабліва падкрэслены тыя справы і формы працы, якія ў папярэдніх кадэнцыях не існавалі. Да іх належаць: арганізаванне вялікіх культурных мерапрыемстваў — Купалле і Свята беларускай культуры, узбагачэнне фінальнага конкурсу беларускай песні прыездам мастацкага калектыву з Гродзеншчыны „Лявоны" і кампазітара Аляксандра Шыдлоўскага.

У бягучай кадэнцыі ГП урачыста адзначаліся два юбілеі: у 1986 годзе — XXX гадавіна БГКТ, а ў бягучым годзе — XXX гадавіна літаратурнага аб'яднання „Белавежа", з нагоды якой была арганізавана міжнародная навуковая сесія і запрошаны быў мастацкі калектыў „Музыкі" з Гродна.

Новым у дзейнасці БГКТ з'яўляецца народны універсітэт з беларускай тэматыкай, а таксама З'езд настаўнікаў беларускай мовы з удзелам вучонага-філолага з Беларусі.

Яшчэ ніколі БГКТ не мела права тыпаваць кандыдатаў на радных, а ад бягучага года такое права мае і з яго скарыстала.

Згодна з пастановамі X З'езда БГКТ, наша арганізацыя вярнулася да папярэдняй арганізацыйнай структуры, да існавання аддзелаў БГКТ, якіх зараз налічваецца 17.

У справаздачы гаварылася аб шырокіх кантактах Прэзідыума ГП з уладамі і з Савецкай Беларуссю, аб будове музея, аб

(Працяг на стар. 6)

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Ніл Гілевіч

## ТАКАЯ НАША ЗЯМЛЯ

*(паводле Л. Даскаловай)*

*Вішні, слівы паспрабую —*
*Аж душа мая пяе.*
*Пакладзеш у рот любую —*
*Як цукерка, растае.*

*Яблык пахне так прынадна,*
*Што скажу папраўдзе вам:*
*За марожанае нават*
*Гэткі яблык не аддам!*

*Ну, а грушы, што за грушы!*
*Саладзей няма нідзе.*
*Не адцягнеш і за вушы!*
*Мёд цячэ па барадзе!*

*Я люблю дарункі лета,*
*Ды не ведаю, аднак,*
*Дзе бярэцца соладзь гэта*
*І цукровы гэты смак.*

*А мне ж ведаць вельмі трэба,*
*Як салодзяцца яны.*
*Можа быць, таму што дрэва*
*П'е карэннем сок зямны?*

*Доўга думаў над задачай*
*І рашыў я так пасля,*
*Што салодкая, няйначай,*
*Наша родная зямля.*





Беларускі народны танец „Крыжачок". Фота А. Вярхоўскага.

Сяргей Грахоўскі




Ноччу гула навальніца, бліскалі маланкі, па шыбах барабаніў дождж.

Андрэйку было страшна. Ён доўга не мог заснуць. Чуў, як сонна вуркоча на прыпечку кот, як хвошча па сценах мокрае вецце, як варочаецца і ўздыхае бабуля.

— Спі, унучак, — супакойвала яна, — не бойся. Вецер разгоніць хмары, раніцою зноў будзе сонечна і цёпла.

Бабуля спявае даўнюю калыханку. І заціхае гром, і не так зырка бліскае маланка. Андрэйка засынае, і нешта сніцца яму.

...І адкуль бабка ўсё ведае: раніца сапраўды сонечная і ціхая, зіхатлівая ад расы і буйных дажджынак.

Андрэйка бяжыць па вялікіх цёплых лужынах, з прысад сыплюцца іскрыстыя кроплі, на ўсе галасы заліваюцца птушкі, ад расы аж дыміцца трава, вымыты дажджом лес такі зялёны, што аж рэжа ў вачах.

Бяжыць Андрэйка — з лужыны ў лужыну — за лёгкім гусіным пяром. Вось-вось схопіць рукою, а яно закружылася, паляцела, ледзь дакранулася да вады, падскочыла і зноў не дагнаць.

Так, за пёркам, дабег Андрэйка да вялікага возера. Вецер падхапіў пёрка, закружыў і панёс над сінім прасторам. Андрэйка прыкрыў далонню ад сонца вочы і доўга ўглядаўся ў іскрыстую далеч возера. Там, дзе воблакі дакраналіся да вады, паказаўся белы ветразь. Ён падплываў бліжэй і бліжэй. Каля берага ён стаў вялікім Лебедзем. Вось ён апусціў шырокія крылы, паглядзеў круглым вокам і сказаў Андрэйку:

— Хадзі сюды, хлопчык, садзіся мне на спіну, я павязу цябе ў дзівосную казку. Андрэйка азірнуўся — на беразе нікога не было.

— Мама будзе сварыцца. Пачакай трошкі. Я збегаю папытаюся. Тут блізенька.

— Калі будзеш усяго баяцца, ніколі не пабачыш казачнай зямлі, не пазнаеш радасці і шчасця.

Лебедзь замахаў вялікімі крыламі — падняўся вецер, падхапіў Андрэйку і пасадзіў на шырокую Лебедзеву спіну. Рукі хлопчыка моцна абнялі доўгую тонкую шыю. Разышліся кругі па вадзе, загойдаліся хвалі. Андрэйка на Лебедзю паплыў у сіні прастор.

Вада прасвечвалася да самага дна, відны былі зіхатлівыя каменьчыкі, начовачкі ракавінак, гайдаліся густыя зараснікі водарасцяў. Раптам з іх выплылі вялізныя рыбіны з пругкімі хвастамі і ружовымі плаўнікамі. Яны падставілі шырокія спіны пад Лебедзевы лапкі і так хутка паплылі, што аж вецер засвістаў у вушах. Куды ні глянеш — вада і вада. У ёй праплываюць воблачкі, гайдаецца вялікае, зыркае сонца. Рыбіны вязуць Лебедзя з Андрэйкам усё далей і далей.

Наперадзе, паміж вадою і небам, паказалася зялёная рысачка. Хутка ўбачыў Андрэйка купчастыя дубы, а за імі — цёмны лес. Вада каля берага ўсыпана белымі лілеямі. Вось яны скрануліся, замахалі пялёсткамі і паплылі насустрач Лебедзю.

Не, гэта не лілеі, — маленькія лебедзяняты сустракаюць іх. Адны ўзлятаюць і садзяцца Андрэйку на плечы, другія ад радасці лопочуць крыльцамі па вадзе, наўкол загараюцца і не гаснуць маленькія вясёлкі. Усе разам выходзяць на залацістую

(Працяг на стар. 10)

Уладзімір Дубоўка




### ШТО РАСЦЕ НА ЖАБІНАЙ СКУРЫ?

У ліку дзвюх найлепшых школ дарэвалюцыйнай Віленшчыны была Мядзельская. Дзякуючы шчасліваму збегу сямейных акалічнасцей, давялося і мне два гады вучыцца ў гэтай школе. Усе прадметы ў чацвертым і пятым класах вывучаліся паводле гімназічных падручнікаў. Асабліва матэматыка і прыродазнаўчыя навукі. Усе вучні імкнуліся вучыцца як мага лепш, не заставацца ззаду ад сваіх сяброў. Кожны марыў аб тым, каб пасля гэтае школы пайсці вучыцца далей. Ва ўсялякім разе ўсім было добра вядома, што век непісьменных скончыўся. Усюды, куды не паткнешся, перавагу аддавалі пісьменным людзям.

Адзін раз на год, звычайна вясной, прыязджаў у школу з Вілейкі, з нашага павятовага горада, інспектар. Такімі інспектарамі былі збольшага настаўнікі гарадскога чатырохкласнага вучылішча. Былі яны людзі добра адукаваныя, паканчалі настаўніцкія інстытуты або універсітэты. Насілі настаўніцкую форму: сінія сурдуты з пятліцамі і залатымі гузікамі. Для нас, вясковых дзяцей, якія не бывалі далей свайго мястэчка, не бачылі ні чыгункі, ні, тым больш, аўтамашын, а начальства бачылі толькі на пошце — прыезды інспектара былі вялікай падзеяй. Усе хваляваліся: у такія прыезды строга правяраліся і нашы веды.

Вясной 1914 года стала вядома ў нашай школе, што да нас едзе інспектар і будзе дакладна праз два дні. Перад гэтым была праведзена вялікая падрыхтоўка, а больш правільна сказаць — праверка. Наш настаўнік бегла сам экзаменаваў усіх вучняў і па ўсіх прадметах. Здавалася, што ведаем мы ўсю праграму на „выдатна". Настаўнік нас папярэдзіў, каб мы не палохаліся, бо ў выпадку чаго сорамна будзе яму, настаўніку.

Школу прыбралі, аздобілі зелянінай. Урэшце інспектар прыехаў. Быў гэта вельмі вясёлы, жвавы, малады яшчэ чалавек. Правяраў ён нас нават з меншай прыдзірлівасцю, чымсьці наш настаўнік. Спачатку мы крыху хваляваліся, а пасля другога ўрока асвойталіся і адказвалі яму дужа добра і спакойна. Інспектар не ўтрымаўся, каб не сказаць пра ўсё добрае ў нашай прысутнасці. Такое бывае рэдка.

— Дам я вам яшчэ адно-адзюсенькае пытанне, — звярнуўся інспектар да нашага выпускнога класа. — Што расце на жабінай скуры — воўна або пух?!

Калі на кожнае папярэдняе пытанне ўздымалася дваццаць-трыццаць рук, дык на гэтае не ўзнялося ні аднае. Мы ўсе задумаліся: нібыта на жабе, апрача

(Працяг на стар. 10)

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ



### МОЙ РОДНЫ КУТ

**Словы Я. Коласа** **Музыка І. Лучанка**

*Мой родны кут, як ты мне мілы!*
*Забыць цябе не маю сілы!*
*Не раз, утомлены дарогай,*
*Жыццём вясны мае убогай,*
*К табе я ў думках залятаю*
*І там душою спачываю.*
*Вось як цяпер, перада мною*
*Устае куточак той прыгожы,*
*Крынічкі вузенькае ложа*
*І ёлка ў пары з хвоіною,*
*Абняўшыся цесна над вадою,*
*Як маладыя ў час кахання,*
*У апошні вечар расставання.*
*Люблю цябе, мой бераг родны,*
*Дзе льецца Нёман срэбраводны,*
*Дубы дзе дружнай чарадою*
*Стаяць, як вежы, над вадою...*
*Мой родны кут, як ты мне мілы!*
*Забыць цябе не маю сілы!*
*Забыць цябе не маю сілы.*

### ПАЗЫЧЦЕ

— Агата! Даражэнькая! Пазычце, калі ласка, мне качалку.
— Не магу, мілая, не магу, бо яна мне патрэбная. Я таксама яшчэ чакаю свайго.

### АСЦЯРОЖНЫ

— Дзядуля, ці вы маеце зубы?
— Не, даражэнькі, ужо ніводнага не маю.
— То патрымайце мне арэхі, пакуль я прыду.

# НІВА






Малюнак А. ПАПОВА.

### ВЫТЛУМАЧЫЎ

Жанчына купляе ў нейкага дзядзькі мяса і пытае яго:
— Ці вы мелі сумленне зарэзаць такое худое цяля?
— Я яго не рэзаў. Яно само здохла.

### ДОЎГІ ЯЗЫК

— Цёця, разяў рот, — папрасіла маленькая дзяўчынка жанчыну, што прыйшла да іх у госці.
— Чаго ты не бачыла ў маім роце? — пытаецца тая.
— Мама казала тату, што ў цябе вельмі доўгі язык.



**Заўсёды гатовы падзяліцца тым, што павінен аддаць цалкам.**

**Валянцін Крыжэвіч**

### БЯССОННІЦА

**Мікола Паўзунок не спаў начамі. Лекары сказалі, што нервы. Можа, і так... Апошнім часам начальнік нешта стаў прыдзірацца, жонка дома таксама — усё ёй нешта нестае...**

**Пакутуе начамі Мікола, вочы не можа заплюшчыць, у галаву думкі розныя лезуць.**

**Паскардзіўся неяк ён на бяссоніцу свайму сябру Раману. Той падумаў і сказаў:**

**— Ёсць спосаб. Мне яшчэ дзед гаварыў: „Трэба пусціць у хату сабаку. Дзе ён сабе на ноч месца аблюбуе, там і стаў ложак. Будзеш спаць, як пшаніцу прадаўшы".**

**Свайго сабакі ў Міколы не было, і ён папрасіў дварняка ў знаёмага пенсіянера. Шарык аббегаў, абнюхаў кожны куточак і лёг, шэльма, на палавік ля дзвярэй.**

**„Трасца табе ў бок! — падумаў Мікола. — Што ж я, у парозе павінен спаць? Сюды ж і ложак не стане..."**

**Назаўтра падзяліўся Мікола вынікамі эксперыменту з Раманам. Той растлумачыў:**

**— Сабака ж не пародзісты... Ну што гэта — нейкі Шарык. Ён пад платамі прывык валяцца. Знайдзі пародзістага.**

**Папрасіў Мікола ў знаёмага паляўнічага пародзістага. Хорт — сабака дысцыплінаваны, не ў прыклад Шарыку. Дзе жонка загадала, там і лёг. У калідоры ля дзвярэй.**

**Сярод ночы раптам сабака загаўкаў, нема, на ўсю кватэру, закрычала жонка. Перапалоханы Мікола выскачыў у калідор.**

**Як высветлілася, ноччу захацелася жонцы піць, яна пайшла на кухню і незнарок наступіла хорту на хвост. Сабака спрасонак і хапнуў яе за кашулю.**

**— Ах ты ёлапень! — ачамеўшы ад спалоху, залямантавала жанчына. — Во, паглядзі! Разлупіў кашулю лекар твой... Імпартную. Я ж усе ножачкі адбіла, пакуль гойсала па магазінах...**

**Мікола лыпаў чырвонымі ад бяссонніцы вачыма і думаў адно: „Хто яе бачыць, кашулю тую, імпартная яна ці не... Хіба толькі я пры сваёй бяссонніцы..."**

**Жонка пакрычала-пакрычала і пайшла ў спальню. Мікола пасунуўся ў вялікі пакой на канапу. І, браткі мае, во дзіва-дзіўнае, — праз пяць мінут заснуў, як праваліўся.**

**З тае ночы спаў Мікола, як пшаніцу прадаўшы. У пакоі на канапе.**



### СЫНОК ЦІКАВІЎСЯ

— Мама, ты была дзяўчынкай? — пытае сын у маці.
— Была.
— І ў школу хадзіла?
— Хадзіла.
— А з кім я дома заставаўся?

### НЕВЯЛІКІ ГОРАД

— З кім ты гэта жэнішся?.. Да яе ж увесь горад хадзіў.
— Ой, вялікі там горад! Дзве тысячы чалавек.

*

— Вось дзіва! Гэты конь хоча мяне ўкусіць за галаву.
— Мае добры нюх: пачуў, мусіць, што ў цябе сена ў галаве.

*

Не выбірай сялібы, а выбірай суседа.

*

Зычыш чалавеку дабра — пазычыш і серабра.



### НАВОШТА ЕХАЦЬ У АМЕРЫКУ

**— Чаму ты кінуў працу на прадпрыемстве?**

**— Не аплачваецца, — адказаў Пятрук свайму знаёмаму.**

**— А што аплачваецца? Нарэшце з чагосьці трэба жыць, трэба штодзённа есці, а што без працы?**

**— Прыйшоў я да вываду, што можна жыць лепей, менш працуючы.**

**І Пятрук расказаў аб сваёй лёгкай працы і заробках.**

**— Знаеш, мне і майму сыну дастаткова дзве ночы пастаяць у чарзе, і абодва мы маем больш, чым плацяць на прадпрыемстве.**

**Цяпер вельмі добры разлік на халадзільніках. Даведаешся, калі іх прадаюць, займеш чаргу з вечара пры магазіне, купляеш гэты кухонны агрэгат, а пасля яго прадаеш.**

**Дальбог, прыходзяць людзі раніцай і без торгу даюць на 20 тысяч больш. Я і аддаю і іду дамоў прыпяваючы. Да гэтай работы я заахвоціў і сына. І мы не стаім цэлую ноч удваіх, а толькі на пачатку, калі стане фармавацца чарга. Раніцай даходзіць хто-небудзь з нас — і справа ўладжана.**

**Раней вельмі добра аплачвалася начная стаянка за мэбляй.**

**Браток, трэба думаць, трэба толькі ведаць, дзе і калі будуць прадавацца дэфіцытныя тавары. Не трэба Амерыкі!** (мх)




**Розум кажа адно, сэрца — другое, унутраны голас — трэцяе. Ну, і як тут пачуць яшчэ і голас сумлення!**